# ГРУЗ ГІСТОРЫІ НЕ АБЦЯЖАРВАЕ НАС— ЁН УСКЛАДАЕ АДКАЗНАСЦЬ І АБАГАЧАЕ ВОПЫТАМ

**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.34, 20.56, 15.22;
Віцебск — 5.19, 20.51, 15.32;
Магілёў — 5.23, 20.45, 15.22;
Гомель — 5.27, 20.35, 15.07;
Гродна — 5.51, 21.08, 15.16;
Брэст — 5.56, 21.05, 15.09.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 5 жніўня.

**ІМЯНІНЫ:**
Ермалая, Маісея, Параскевы; Цыпрыяна, Емяльяна.




# ЗВЯЗДА

8 ЖНІЎНЯ 1992 г. субота, № 157 (21935)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель




Россійская Соціалъ-Демократическая Рабочая Пар

ЗВѢЗДА

Пролетаріи всѣхъ странъ соединяйтесь!

Органъ Минскаго Комитета Р. С.-Д. Р. П.

№ 1. ЕЖЕДНЕВНАЯ ГАЗЕТА.

Товарищи!

Отъ редакціи.



ЗВЯЗДА

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

20

КРАІНА Ў ШОКУ

І МЫ АНЯМЕЛІ...

ВЫБАР

...ў КПСС за... апошні шанц вяр... сабе аўтарытэт, адмежаваўшыся ад ДКНС. У выпадку ж, калі яна гэтага не зробіць і тым больш заклікае да падпарадкавання яму, фінал яе, прама скажам, будзе сумны. З гісторыі ведаем, што бывае з партыямі, якія падтрымліваюць незаконны захоп улады. І справа не столькі ў асобе Гарбачова, колькі ў захаванні Канстытуцыі, абараніць якую можа толькі народ.

Зрэшты, улады мяняюцца, партыі нараджаюцца і паміраюць, а сумленне наша заўсёды з намі. Менавіта яно ў такі драматычны для краіны момант павінна кіраваць нашым выбарам — паміж дэмакратычнай, прававой дзяржавай, законнымі інстытутамі ўлады ці нечым іншым. Сярэдняга тут не дадзена.







# Час, які мы не выбіралі

***75 гадоў назад у Мінску выйшаў першы нумар «Звязды»***

Раней гісторыю апошніх сямі дзесяцігоддзяў прынята было называць слаўнай. Цяпер часцей гучаць процілеглыя азначэнні — трагічная, зламаная, цяжкая... А можа, яна была проста — гісторыяй — звычайнай, без эпітэтаў, такой, якую наканаваў лёс!

«Звязда» была разам з людзьмі Беларусі апошнія тры чвэрці стагоддзя гэтай суджанай нам Богам гісторыі. Газета служыла люстэркам часу, сведчаннем часу, дакументам часу. І калі цяпер нехта, глытаючы архіўны пыл газетных падшывак, спрабуе дакараць нас за камуністычнае мінулае, мы адкрыта адказваем, што не адмаўляемся і не адракаемся ні ад аднаго з гэтых сямідзесяці пяці гадоў. Не люстэрка вінаватае ў тым, што камусьці не падабаецца яго ўласны твар.

Лягчэй за ўсё выносіць прыгавор пост-фактум, з вышыні гадоў. Але якраз той, хто з найбольшым напалам стараецца закляйміць і зганьбіць,—рызыкуе сам быць асуджаным нашчадкамі.

Яны былі рознымі, гэтыя 75 гадоў. Нашы папярэднікі доўга заставаліся скаванымі жорсткімі цэнзурнымі рамкамі і ідэалагічнымі догмамі. Ім не хапала свабоды, прасторы, магчымасці тварыць.

Але пакаленні, якія былі да нас, не толькі змагаліся за выкананне чарговых планаў партыі і перажывалі за лёс палітычных дысідэнтаў. Яны яшчэ і проста жылі. А можа, найперш — жылі. Не задумваючыся пра ідэалагічную траскатню, вырошчвалі хлеб і гадавалі дзяцей, кахалі і ненавідзелі, сумавалі і радаваліся. І «Звязда» для соцень і соцень тысяч людзей была часткай гэтага жыцця, часткай побыту. І ўспрымалі яе менавіта так, у звычайным будзённым сэнсе — не як прапагандысцкі інструмент партыі, а як аркуш са свежымі навінамі, з крыжаванкай, з карыснымі хатнімі парадамі, з праграмай тэлеперадач.

У «Звязды» нямала падпісчыкаў, для якіх з нашай газетай звязана ўсё жыццё. Для якіх яна назаўсёды застанецца ўспамінам даваеннага маленства, калі даставалі яе з паштовай скрынкі і неслі бацькам. Згадкай пра гады партызанскай маладосці, калі і рэдакцыя, і друкарня працавалі спачатку ў мінскім падполлі, а потым — у лясах Любаншчыны. Для колькіх людзей тады голас «Звязды» гучаў як голас надзеі і праўды.

«Звязда» была адной з нямногіх газет, якія не кінуліся на ўсход, у эвакуацыю, а спаўна раздзялілі з народам яго боль і пакуты. І цану за гэта супрацоўнікі антыфашысцкай «Звязды» заплацілі самую высокую, як і ўся Беларусь. Ад рук ворагаў загінуў першы рэдактар падпольнай «Звязды» Уладзімір Амельянюк. Да апошняга дня жыцця выдаваў «Звязду»-партызанку рэдактар Міхаіл Барашкаў. А ўсяго з вайны ў рэдакцыю не вярнуліся пятнаццаць супрацоўнікаў.

І потым, пасля вайны, у мітусні шматколернага жыцця, сярод радасцей і клопатаў, «Звязда» заставалася з людзьмі. Яе статус галоўнай нацыянальнай газеты быў не толькі атрыбутам таталітарызму. Ён пры ўсіх сваіх выдатках даваў журналістам магчымасць дапамагаць людзям у іх канкрэтных праблемах, быць абаронцамі зняважаных і пакрыўджаных. Так, гэта была функцыя, не ўласцівая дэмакратычным газетам. Але спытайце ў тых тысяч і тысяч людзей, якім дапамагла газета,—ці лічаць яны, што журналісты займаліся не сваёй справай! Газета была адной з нямногіх устаноў, у якую верылі людзі, стомленыя бясплённай барацьбой з бюракратычнай савецкай машынай.

За многія дзесяцігоддзі для тысяч людзей у іх штодзённым побыце «Звязда» стала няхай дробнай, але неабходнай дэталлю жыцця, — як фамільная рэч, да якой прывыкаеш так, што часам нават не заўважаеш. А знікне яна — і адразу свет становіцца іншым, бо разумееш, як шмат яна значыла. Напэўна, гэта — самая каштоўная частка нашых чытачоў, бо яна ніколі не адмовіцца ад газеты, — якія б палітычныя вятры ні дзьмулі.

І мы ганарымся гэтым. Груз гісторыі не абцяжарвае нас — ён ускладае адказнасць і насычае вопытам.

Мы — іншыя, чым былі нашы папярэднікі. «Звязда» сённяшняя і «Звязда» гадавой даўнасці — вельмі розныя. Розныя да такой ступені, што калі б не назва, магло б здацца, што гэта два самастойныя выданні. Мы не лічым гэта заганай. Мінулы год перамяніў свет. Іншымі сталі мы ўсе. Іншай стала краіна, у якой жывём.

Гэта не мы перакінуліся на іншыя пазіцыі, — як дакараюць нас камуністы. Гэта скончылася эпоха, змяніўся час і людзі ў ім. І нам не сорамна, што ў жнівеньскія дні мінулага года, — крытычныя для лёсу краіны, — «Звязда», нягледзячы на націск, адразу паказала, з кім яна і якую справу абараняе.

Гады не стараць газету — наадварот, надаюць ёй вагу і аўтарытэт. Новая «Звязда» па-ранейшаму разам з людзьмі Беларусі. Гэтак жа, як і ў самыя цяжкія для ўсяго нацыянальнага часы, мы не здраджваем і не здрадзім мове народа, якому належым. Мы верым, што будзем жыць у вольнай, незалежнай і заможнай Беларусі. Без гэтай веры ўявіць сённяшнюю і будучую «Звязду», бадай, ужо немагчыма.

Валянцін ЖДАНКО.












# БЕЛАРУШЧЫНА

*Гісторык Доўнар-Запольскі:*

## «БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ— НА ТРЫВАЛЫХ ГІСТАРЫЧНЫХ ПАДМУРКАХ»

**Сёлета споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Мітрафана Доўнар-Запольскага, які па праву лічыцца пачынальнікам уласнабеларускай гістарычнай навукі. Гэта быў чалавек шматграннага таленту і надзвычай шырокага дыяпазону навуковых інтарэсаў: гісторыя, этнаграфія, фальклор, мовазнаўства. У сваіх даследаваннях Доўнар-Запольскі выпрацаваў навуковую візію гістарычнага шляху беларускага народа.**

Вызначыўшы і прааналізаваўшы межы старажытнай Беларусі, асаблівасці раннесярэдневяковай гісторыі, вучоны прыйшоў да высновы: адсутнасць татара-манголаў на абшарах Полацкага і Тураўска-Пінскага княстваў абумовіла жыццёвасць народнага веча, традыцый дэмакратызму на Беларусі. Беларусаў ніколі не заваёўвалі неславянскія народы, таму яны «хіба самы чысты тып славянства».

Доўнар-Запольскі лічыў, што ўжо ў Кіеўскай Русі, якая не мела ні палітычнага, ні этнаграфічнага адзінства, фарміраваліся асобныя народы, ці «народныя арганізмы». Кожны з іх меў: 1) гістарычныя, традыцыйныя пачаткі; 2) мову, літаратуру (вусную ці пісьмовую); 3) этнаграфічныя асаблівасці; 4) асаблівасці геаграфічнага становішча і фізіялагічнай будовы індывіда. Па ўсіх гэтых паказчыках беларусы адрозніваліся ад украінцаў і велікарусаў.

Трагедыяй для беларускага народа, на думку гісторыка, стала «злучэнне з Польшчай» (Люблінская унія 1569 года). З'яднанне розных па рэлігіі і этнічнай прыналежнасці народаў выклікала ўнутраную барацьбу, што аслабляла і дзяржаву, і кожны народ. Рэлігійнае і сацыяльнае змаганне са шляхтаю адцягвала беларусаў ад стваральнай працы, шкодзіла самаразвіццю, вяло да палітычнага змярцвення. Шукаючы апоры, праваслаўныя беларусы глядзелі на Маскву, адзінаверную і родную, а тая ўдала выкарыстоўвала гэта дзеля ўласных экспансіяністкіх мэтаў. Аднак ужо першыя знаёмствы з царскай уладай паказалі, што ўмовы жыцця, традыцыйны лад на Беларусі зусім іншыя, чым у маскоўскай дзяржаве.

Гісторык трапна зазначыў, што напрыканцы самага змрочнага для Беларусі XVIII стагоддзя ўключаны ў састаў Расійскай імперыі край спазнаў падвойны прыгнёт. Расійскія ўлады не надта разумелі, што за землі былі імі «от Польши обретенные». Ажно да 40-х гадоў XIX ст. Беларусь афіцыяльна называлася імі «Літвою», а заходнія паветы—«Польшчаю». Пры імператарах Паўлу і Аляксандру I урад падтрымліваў на Беларусі польскі элемент, афіцыяльна спрыяў паланізацыі краю. Толькі паўстанне 1830—1831 гг. «працверазіла» расійскае кіраўніцтва, і яно перайшло да актыўнай русіфікацыі заходніх губерняў.

Паказваючы недасведчанасць, павярхоўны падыход расійскай адміністрацыі да кіравання інкарпараванымі землямі, Доўнар-Запольскі прыводзіць цікавы прыклад: у 1835 годзе, амаль праз паўстагоддзя «кіравання», гісторык Устралаў паведаміў міністру асветы Увараву, што Вялікае княства Літоўскае — гэтаксама «Русь»! Пра што афіцыяльна далажылі імператару...

У расійскай літаратуры актыўна прапагандаваўся стэрэатып змрочнага, забітага беларуса. На думку Доўнар-Запольскага, гэта рабілася па палітычных прычынах — каб даказаць, што менавіта панаванне польскіх памешчыкаў і яўрэяў адбілася на «северо-западном» краі так негатыўна.

Ва ўмовах актыўнай антыбеларускай прапаганды Доўнар-Запольскі выступае ў перыядычным друку, адстойваючы права беларусаў на нацыянальную самастойнасць, імкнучыся абудзіць самасвядомасць народа. Прычым праблему нацыянальнага адраджэння ён ставіць на навуковы грунт: перакананы, што ў беларусаў ёсць будучыня, паколькі не страчаны этнавызначальныя прыкметы. Галоўнае значэнне пры гэтым гісторык надае мове: «Народ, пазбаўлены палітычнага жыцця... часам на цэлыя стагоддзі, сыходзячы з палітычнай арэны і быццам заміраючы, — такі народ, калі ён не страціў сваёй мовы, этнаграфічных асаблівасцяў і г. д., — зноў выступае на арэну калі не палітычнага, дык, прынамсі, сацыяльнага ды інтэлектуальнага жыцця». У прыклад Доўнар-Запольскі прыводзіць нацыянальнае адраджэнне чэхаў, сербаў, балгараў, украінцаў. Падкрэслівае: народы, якія страцілі асаблівасці «нацыянальнага арганізма», загінулі.

Калі ў сакавіку 1918 г. у Менску была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, Доўнар-Запольскі горача вітаў стварэнне ўласнай дзяржавы беларусаў. На падставе гістарычных фактаў ён даказваў, што дзяржаўнасць беларускага народа сягае сваімі вытокамі да поліэтнічнага Вялікага княства Літоўскага, і настойваў, каб Беларусь разглядалася ў ейных этнаграфічных межах (уключаючы басейн Прыпяці). Цалкам прыхільныя адносіны аўтарытэтнейшага гісторыка былі істотнай падтрымкай справы стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці. Па просьбе ўрада БНР Доўнар-Запольскі напісаў «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» — работу, якая праз год была перакладзена на расійскую, нямецкую і французскую мовы. У шчырым патрыятычным парыве гісторык даводзіў, што беларусы здатныя да самастойнага жыцця, што «такі народ мае ўсе правы на дзяржаўную незалежнасць». Выяўляючы самыя радыкальныя пазіцыі аўтарытэтнага прафесара, брашура вяршыць эвалюцыю ягоных навуковых поглядаў па пытаннях нацыянальнага развіцця і дзяржаўнасці беларусаў.

На жаль, гістарыяграфічная спадчына Мітрафана Доўнар-Запольскага належным чынам не даследавана і дагэтуль. Беларускі інстытут Еўропы, заснаваны пры Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, у наступным годзе мяркуе правесці міжнародную канферэнцыю, прысвечаную выдатнаму гісторыку, і падрыхтаваць да перавыдання ягоную навуковую спадчыну.

**Генадзь САГАНОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

---

**ДА МНОГІХ НАШЫХ СУГРАМАДЗЯН дзяржаўная мова вяртаецца з дапамогаю сродкаў масавай інфармацыі, і перш за ўсё — тэлебачання. Для дыктараў беларуская мова — рабочы інструмент. Яны выдатна адчуваюць сваю адказнасць за правільнасць і чысціню вымаўлення: людзі ж уважліва прыслухоўваюцца да іх слова, нават стараюцца гаварыць, як яны. У спрэчных момантах адносна культуры мовы як аргумент нярэдка гучыць: «А дыктарка па тэлевізары гаварыла так!»**

**Марына ТАЧЫЦКАЯ, Зінаіда БАНДАРЭНКА, Ірына КАМЕЙКА, Таццяна МАЦЮШЭНКА, Марына НОВІКАВА, якіх вы бачыце на гэтым здымку, умеюць добра, дакладна падаць гожае беларускае слова. Дзякуючы тэлебачанню, яны ўваходзяць у кожны дом, іх пазнаюць на вуліцах, у метро, у крамах. Меладычная родная мова цудоўна спалучаецца са сціпласцю, інтэлігентнасцю, мяккімі манерамі гэтых беларускіх жанчын.**

**Фота Анатоля ДРАЗДОВА.**

---

## КРУПЕНЯ, СМАЖАНІНА, ПРАЖАНІНА...

### ПРА СМАЧНАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ХАРЧАВАННЕ

**Беларусы заўсёды славіліся гасціннасцю. Спрадвеку вядзецца ў нашым народзе, ва ўсіх казках зазначаецца: спачатку госця накармі, а потым ужо распытвай ды расказвай.**

**Але гасцей — і з блізкага, і з далёкага замежжа — нам хочацца пачаставаць менавіта нацыянальнымі стравамі, а не традыцыйнымі лангетамі-катлетамі. Таму вядзём іх не ў «пельменныя» і «чабурэчныя», якіх у нас багата, а туды, дзе можна адчуць гонар за нацыянальную кулінарыю. Кафэ «Бульбяная» — своеасаблівая «візітная картка».**

...Самыя папулярныя стравы тут — пражаніна, смажаніна, дранікі. Адны наведвальнікі змяняюць другіх, але раз-пораз чуецца:

— Мне, калі ласка, гаршчочак!

Падносячы ежу, афіцыянткі адразу папярэдваюць:

— Асцярожна, не апячыцеся: усё з полымя, з жару — як з сапраўднай печы...

Гурманы ведаюць, чым пражаніна адрозніваецца ад смажаніны. Пражаніна тушыцца ў гаршчочку (бульба, мяса, грыбы, чарнасліў, прыправы — усё заліваецца гароднінным соусам), а смажаніна запякаецца ў парцыённай патэльні (бульба і ўсе дабаўкі заліваюцца ўзбітым яйкам). Смачныя («ну не ад'есціся!») і дранікі па-вясковаму, якія тушацца ў гаршчочку разам са свінінай, грыбамі, смятанай.

Вялікае значэнне ў «Бульбянай» надаецца не толькі «зместу» стравы, але і форме яе падачы — повары, афіцыянткі стараюцца захаваць нацыянальную эстэтыку, беларускі каларыт. Салата «Смачная», напрыклад, падаецца ў спецыяльным кошычку, што выпякаецца з бульбяных скрылёчкаў.

А такая вось дробязь: раней смятана да дранікаў падавалася на асобным сподачку, але потым з-за недахвату посуду вымушаны былі «спрасціць працэдуру». Пастаянныя наведвальнікі адразу ж звярнулі на гэта ўвагу.

— Вельмі крыўдна, што праблемы нашага часу не лепшым чынам адбіваюцца на якасці абслугоўвання, — уздыхае загадчыца «Бульбянай» Валянціна Тараканава. — Смятана ж традыцыйна падаецца халоднай, інакш губляецца яе смак. Аднак днямі мы атрымалі партыю новага посуду, так што зможам абслугоўваць кліентаў «без накладак».

У «Бульбянай» распрацавана каля 80 фірменных страў, іх асартымент перыядычна змяняецца. Апошнім часам стала менш праблем з забеспячэннем прадуктамі, так што ёсць магчымасць больш фантазіраваць над закускамі (тая ж пражаніна — пяці відаў: з рознымі дабаўкамі, соусамі, прысмакамі).

— Сёння, дарэчы, у меню «катлета натуральная» — дык да абеду пайшла толькі адна порцыя. Хай нават звыклыя стравы больш танныя, але іх не бяруць: гэта можна заказаць у любым кафэ ці рэстаране.

«Гаршчочкі» каштуюць 30—40 рублёў, але заўсёднікі заўважылі, што апошнім часам яны «пахудзелі». Усё тлумачыцца проста. Каб крыху зменшыць кошт стравы, паменшылі закладку: зараз порцыя складае 250 грамаў, а не 330, як раней. (Па старых закладках «гаршчочак» каштаваў бы 50—55 рублёў).

...Сяброўкі дзякуюць за смачны абед:

— Атрымалі зарплату, дык вырашылі наладзіць «свята жывата». Працуем лабаранткамі, заробак невялікі, звычайна абедаем «з-сабойкамі». А вось з зарплаты!..

Нягледзячы на ўзросшыя цэны, праблем з наведвальнікамі ў «Бульбянай» няма. Хаця, канешне, іх колькасць зменшылася: калі раней абарачальнасць аднаго пасадачнага месца складала каля 15 чалавек за змену, то зараз — 5—6 чалавек. Ёсць магчымасць больш уважліва абслужыць кожнага.

Камандзіраваны з Варонежа:

— Цяпер я ведаю, чаму вас, беларусаў, называюць «бульбашамі»: вы не толькі ўмееце вырошчваць бульбу, але і мастакі яе прыгатаваць.

**Таццяна ПАДАЛЯК.**
г. Мінск.

**Здаецца, наспеў час перагледзець канцэпцыю грамадскага харчавання ў рэспубліцы, больш увагі ўдзяляць стравам нацыянальнай кухні — не па форме, а па сутнасці. Нярэдка яшчэ здараецца: аддаючы даніну модзе на беларускасць, у меню замест «катлета натуральная» пішуць «катлета палеская», нічога ў той катлеце не мяняючы... Вельмі важна, каб не толькі ў сталіцы і абласных гарадах, але і ў райцэнтрах нацыянальны стыль у абслугоўванні, стравы беларускай кухні трывала ўвайшлі ў штодзённае жыццё.**

---

САМО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ

### Стаіце тут—што вазоны!..

**Гэта ўжо своеасаблівы рытуал: баба Гэля ідзе з вядром карміць парасят — важна адчыняе хлеў і, напускаючы на сябе нездаволенасць, бурчыць на гадаванцаў:**

**— Ну адыдзіце, адыдзіце ад карыта, дайце вядро ўліць! От-жа, стаяць — што вазоны!..**

**Любімае сваё выслоўе бабуля паўтарае досыць часта. Курам, напрыклад:**

**— Вой-вой-вой, ну не сагнаць іх з двара — хоць ты пугу бяры! Ідзіце лепш на поле што пашчыпайце, а то стаіце над душой, бы вазоны!**

**З дзяцінства ўвабрала ў сябе бабчыны слоўцы і выразы — што называецца, падсвядома. Аднойчы ў гутарцы аўтаматычна сказала пра вазоны — і суразмоўца здзівіўся, пачаў перапытваць, адкуль «выкапала» такое.**

**Спытала ў бабы Гэлі: адкуль?**

**— Дык яшчэ мая бабка-нябожчыца так казала, і тата... Хіба ж незразумела? Вазоны на акне стаяць — не кратаюцца, пакуль сам не прымеш...**

**Усё вельмі проста, аказваецца. Гэтная па-сялянску разважлівая, глыбокая і трапная метафара-назіранне.**

**Уладзя ТАЦЦЯНЧЫК.**

Пухавіцкі раён.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Зараз, калі паступова пашыраецца ўжытак роднай мовы, вельмі важна захаваць яе каларыт, не згубіць багатыя крынічныя скарбы, не дайсці да лексічнага спрашчэння. Магчыма, і ў вашых мясцінах, паважаныя чытачы, ёсць цікавыя, арыгінальныя моўныя ўтварэнні, чыста «вашынскія» метафары, фразеалагізмы. Падзяліцеся!

### У «Нотах»—дэтэктывы

Наведала магазін «Ноты», што каля ГУМа, каб купіць у падарунак пляменніку кніжачку музычных твораў на беларускай мове. Вельмі падабаецца яму пад акампанемент маці спяваць. Але, перагледзеўшы некалькі пажоўклых экземпляраў нот выдання 1979—1988 гадоў, якія па традыцыі пачыналіся з гімна або камсамольскіх песень, я знайшла толькі адзін свежы зборнік 1992 г., прызначаны для музычных заняткаў у дзіцячых садках і малодшых класах агульнаадукацыйнай школы, мастацкай самадзейнасці і дамашняга музыцыравання. «Вясёлы ранішнік» В. Жуковіча і Э. Казачкова прыгожа афармлены, цікавы, але ж хацелася б купіць ноты знаёмых песень. На жаль, іх не аказалася. Затое шмат у магазіне «Ноты» замежных дэтэктываў. Хоць ты таго ж прыватнага дэтэктыва наймай, каб адшукаў зборнік беларускіх народных песень! Каля касы я выплажыла за кніжку нот у 40 старонак 6 рублёў. І гэта, як мне сказалі, яшчэ танна.

**Л. АНАТОЛЬЕВА.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Праблема забеспячэння беларускай нотнай прадукцыяй, безумоўна, вельмі актуальная. Нельга забываць, што музычнае мастацтва — частка (і немалая!) нашай культуры. Больш падрабязна пагаварыць пра гэта мы мяркуем у адным з наступных нумароў газеты.**

---

## УЗРУШЫЎСЯ НЕ АДРАЗУ...

### КАНТРОЛЬНАЯ ПАЛАТА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПАЧАЛА САВЮ РАБОТУ

Нарадзіўшыся два месяцы назад і маючы пакуль што 32 штатныя супрацоўнікі (пры плануемай колькасці 260 чалавек), Кантрольная палата Вярхоўнага Савета рэспублікі правяла першае сур'ёзнае слуханне. Разглядалася пытанне «Аб процізаконных дзеяннях дырэктара племсаўгаса «Задняпроўскі» і патуранні яму органаў дзяржаўнага кіравання».

Хаця парадак дня, здаецца, даволі лакальны, праблема разглядалася далёка не прыватная. Племсаўгас «Задняпроўскі» Аршанскага раёна — адзін з тых, што некалі быў гаспадаркай саюзнага падпарадкавання. І, як толькі задзьмулі «новыя вятры», глаўк тэрмінова пераўтвараецца ў акцыянернае таварыства, куды ўваходзіць племсаўгас «Задняпроўскі» (а таксама чатыры гаспадаркі Віцебскай, дзве — Магілёўскай, адна — Мінскай і адна — Брэсцкай абласцей).

Стаўшы членам саюзнага акцыянернага таварыства, племсаўгас «Задняпроўскі» (яго ўзначальвае Юрый Савіцкі), перадае яму без дазволу ўрада рэспублікі ва ўласнасць зямлю, раздае, а не прадае акцыі членам свайго калектыву, незаконна атрымоўвае дывідэнды з іх, прыватызуе жыллё і г. д.

Дырэктар жа племсаўгаса займае некалькі службовых пасад адначасова, у тым ліку ўзначальвае і сумеснае з італьянцамі прадпрыемства па вырабу скуры, якое дасюль нічога не вырабляе.

Пералік дапушчаных парушэнняў законаў (так, у множным ліку) займае вялікую даведку, падрыхтаваную начальнікам упраўлення Кантрольнай палаты, народным дэпутатам Беларусі Яўгенам Глушкевічам, яго калегам па Вярхоўнаму Савету Віталем Малашкам і начальнікам упраўлення Мінюста Уладзімірам Бандарэнкам.

Ці ёсць у парушэннях элементы крымінальнага злачынства, якая ў сапраўднасці сума нанесенага рэспубліцы матэрыяльнага ўрону, вызначаць пракуратура (туды перадаюцца матэрыялы справы), а можа, і суд, у рэшце рэшт (паводле папярэдніх даных, размова ідзе аб суме звыш 19 мільёнаў рублёў у старых цэнах). Тут жа ёсць сэнс сказаць аб іншым.

У «справе» племсаўгаса вельмі яскрава і дакладна адлюстроўваецца ўсё бязладдзе нашай рэчаіснасці, калі баль правіць беззаконнасць. Многія законы былога СССР усё яшчэ застаюцца ў сіле ў рэспубліцы, паколькі працягвае дзейнічаць Канстытуцыя БССР.

Адначасова шмат новых законаў прыняў Вярхоўны Савет рэспублікі. Разабрацца, што да чаго, часам бывае цяжка нават юрыстам — спецыялістам. У такой сітуацыі лёгка прыкрыць «законнымі» падставамі любы «прыхватызацыйны» крок, як спрабаваў гэта рабіць на пасяджэнні Кантрольнай палаты дырэктар саўгаса Савіцкі.

Між тым, напаверх гэтыя факты выплываюць пакуль што часцей за ўсё выпадкова. Вось і ў дадзеным выпадку незаконна быў звольнены намеснік дырэктара племсаўгаса. Ён пачаў скардзіцца (дарэчы, суд аднавіў яго на працы), пацягнуўся ланцужок і вось — фінал...

Але да гэтага, паводле слоў Савіцкага, на працягу паўтара года племсаўгас правярала больш трыццаці (!) камісій, і ўсе канстатавалі, што тут усё ў парадку. Пакуль не ўмяшалася Кантрольная палата.

Ці сведчыць гэта аб існуючай кругавой паруцы? У некаторай ступені так. Але, верагодна, у большай аб тым, што ведамствы, закліканыя абараняць інтарэсы рэспублікі, не выконваюць свае функцыі належным чынам. У першую чаргу гэта датычыць камітэтаў па дзяржмаёмасці і знешнеэканамічных сувязях, Мінсельгасхарча, іх прадстаўнікі на шматлікія да іх пытанні на пасяджэнні Кантрольнай палаты так і не змаглі адказаць здавальняюча.

Больш таго, калі старшыня Кантрольнай палаты Васіль Сакович выказаў думку, што ў перспектыве ёсць неабходнасць праверыць дзейнасць і Камітэта па знешнеэканамічных сувязях, намеснік старшыні камітэта Міхаіл Марыніч даволі рэзка адпарыраваў: «У нас толькі і ўмеюць, што правяраць, а не ствараць». З'едліва гучыць, але як у нас «ствараюць», калі не правяраюць, а калі і правяраюць, дык павярхоўна, добра відаць на прыкладзе племсаўгаса «Задняпроўскі».

Законы ў нас у большасці сваёй даволі талковыя, але хто калі раней чытаў іх уважліва, і тым больш — выконваў? Жылі ж не па іх, а па «правілах» Палітбюро і «тэлефоннаму» праву. Кантрольнай палаце і давядзецца дапамагчы грамадству жыць менавіта па законах, і толькі па іх.

Шкада, што паўнамоцтваў у яе, на жаль, малавата. Вярхоўны Савет рашыў, што дастаткова ёй, як некалі народнаму кантролю права, штрафаваць вінаватых двума-трыма акладамі (Літоўскі дэпартамент па кантролю, напрыклад, мае права звальняць з работы).

Вось і дырэктара племсаўгаса Савіцкага пакаралі «трыма акладамі», што, відаць, не вельмі яго ўзрушыла. Узрушыўся ён толькі тады, калі пачуў, што матэрыялы справы Кантрольная палата перадасць у пракуратуру.

**Галіна АЙЗЕНШТАТ.**

---

## Жыццё на гарышчы

**Чалавек, як вядома, да ўсяго прывыкае: да галечы, да думкі аб смерці, да цёмнага і сырога заканурка, дзе даводзіцца гібець многія гады свайго жыцця. Аднак у кожным выпадку ягоная душа саграваецца надзеяй, што яшчэ крыху— і ўсё палепшыцца. Што ж, заканамерная асаблівасць, уласцівая чалавеку ад прыроды.**

...У 1957 годзе Мікалай Іванавіч Машко з сям'ёй пераехаў у Слонім. Уладкаваўся дзяжурным на чыгуначнай станцыі. Пасада гэтая даволі адказная, патрабуе шмат увагі, дысцыплінаванасці і, вядома, прафесіяналізму. І яму, як спецыялісту, адвялі невялікі пакойчык у тым жа будынку вакзала. Толькі на другім паверсе, а дакладней, на гарышчы, якое прыстасавалі пад жыллё. Людзі складу Мікалая Іванавіча, якія хапілі ліха ў вайну, не звярталі ўвагі на прамерзлыя сцены зімой і духату ўлетку. І горшае даводзілася бачыць. Да таго ж у будучым паабяцалі лепшую кватэру, з усімі выгодамі. «А на першым часе і ў такой можна перакідацца», — вырашыў Машко.

Аднак ішлі гады. У тым жа заканурку выгадаваў і вывучыў траіх дзяцей. Восем гадоў назад яго ўрачыста адправілі на пенсію. Абяцанні так і засталіся абяцаннямі. Праўда, адзін з яго суседзяў пакінуў пакойчык, і яму дазволілі пашырыць жыллёвую плошчу. Цяпер на чатырох (разам з бацькамі жыве дачка са сваім сынам) прыпадае 31 квадратны метр.

Вакзал будавалі ў пачатку XX стагоддзя, і вядома, тады не ведалі, што на гарышчы будуць жыць людзі.

А гарышча як гарышча — дашчатае, любімае месца галубоў. Але вось паўстагоддзя назад уладанні птушак захапілі людзі. І цяпер тут жывуць 16 чалавек — пяць сем'яў. Адна на ўсіх кухня. Туалет вакзальны, на вуліцы. А з выгод — газавая пліта, кран з халоднай вадой. Нядаўна падвялі паравое ацяпленне.

— Якая з яго карысць? Зімой усё роўна гатуем ежу ў кажухах, — заўважыла жыхарка паддашка Валянціна Андрасюк. — Добра, што хоць печкі пакінулі. Яны нас і саграваюць у маразы.

Экскурсія па гарышчы, якую прапанавалі мне яго насельнікі, пакінула самыя добрыя ўражанні аб іх вынаходніцтве і кемлівасці. Ну сапраўды: прыстасаваць для жылля непрыстасаванае, стварыць дамашнюю ўтульнасць, бадай, не кожны зможа. Адзін свой паддашак перагарадзіў і стаў уладальнікам ужо двух пакойчыкаў. Другі змайстраваў кладоўку і вызваліў жылплошчу ад дамашняга скарбу. Але як ты ні старайся, аднак сапраўднага камфорту не створыш.

— Больш за ўсё даводзіцца хваляваца за дзяцей, — сказаў Уладзімір Ярашэвіч. — Гуляць ім няма дзе. З аднаго боку — чыгунка, з другога — машын і аўтобусаў шмат. Таму ў малых застаецца адна забава — праз акно назіраць за жыццём.

Пастаянны шум і грукат, якія крыху сціхаюць толькі ноччу, стаў неаддзельным ад іх жыцця.

Адзін з членаў кожнай сям'і тут — чыгуначнік. Аб сабе яны перыядычна напамінаюць кіраўніцтву Баранавіцкага аддзялення чыгункі, куды ўваходзіць станцыя Слонім, ды і мясцовым гарадскім уладам не даюць забыць аб сваім існаванні. Аднак мара стаць навасёлам для іх пакуль так і застаецца толькі блакітнай марай. Ды вялізны стос абнадзейваючых адпісак нагадвае аб запланаваным будаўніцтве жылля, якое па розных прычынах штогод адкладвалася.

— Здаецца мне, што і паміраць давядзецца на вакзальным гарышчы. Няўжо я не зарабіў сабе кватэру за тыя 50 гадоў жыцця, што аддаў чыгунцы? — на развітанне задаў мне пытанне Мікалай Іванавіч Машко.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК.**

---

УСЁ МОЖА ЖАНЧЫНА

## «Праца мне дае магчымасць заставацца самой сабой»

**Шэсць гадоў назад Наталля ШАЎКО скончыла хімічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працавала па спецыяльнасці на заводзе «Калібр». Потым разам з мужам у кааператыве па рамонту радыёвымяральнай тэхнікі і прыбораў. Зараз яна — генеральны дырэктар фінансава-інвестыцыйнай кампаніі (ФІКА). Адначасова вучыцца на пятым курсе Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.**

**— Наталля Алегаўна, як здарылася, што менавіта жанчына ўзначаліла ФІКА? Чым вы займаецеся?**

— У мяне даўно было жаданне працаваць у галіне фінансаў. У ФІКА я — наёмны работнік. Зараз у галіне эканомікі такая сітуацыя, што патрэбны фінансавыя структуры, якія дапамагалі б «пераліваць» капітал, адпрацоўвалі б інвестыцыйныя праекты на высокім прафесіянальным узроўні, вялі б пошук інвестараў для нашых прадпрыемстваў, для розных галін вытворчасці, і прафесіянальна працавалі б на рынку каштоўных папер. Асноўны накірунак нашай дзейнасці зараз —прыватызацыя. Мы праводзім акцыяніраванне «Мілавіцы» і працягваем працаваць з іншымі прадпрыемствамі лёгкай прамысловасці. Проста змена ўласнасці — гэта не панацэя ад усіх бед. Мы спрабуем дапамагчы прадпрыемствам увайсці ў рынак. Мы праводзім аўдытарскую праверку на прадпрыемстве і даём ацэнку яго маёмасці, выпрацоўваем для гэтага прадпрыемства статут і дагавор заснавальнікаў менавіта ў тым выглядзе, які найбольш прымальны для гэтага прадпрыемства. Даём парады па змяненню яго структуры. Займаемся яго акцыяніраваннем. Зараз сумесна з Дзяржзнакам рыхтуем акцыі «Мілавіцы». Яны будуць з беларускай сімволікай, і надрукуем іх на Беларусі. Акрамя гэтага, рыхтуем эмісійны праспект і распаўсюджваем акцыі.

**— І ў вас няма праблемы з кліентурай?**

— Спачатку мы самі шукалі кліентаў, зараз — яны нас. Вядомай наша кампанія стала пасля супрацоўніцтва з «Мілавіцай». На гэты момант працуем з Мінскай фабрыкай мастацкіх вырабаў, падшыпнікавым заводам, Барысаўскай макароннай фабрыкай, Кобрынскім інструментальным заводам. Падпісаны дагавор з Заходняй прамыслова-будаўнічай кампаніяй.

**— Вам падабаецца быць дырэктарам камерцыйнай арганізацыі?**

— Мне падабаецца быць самой сабой. А гэтая пасада — менавіта тое, што дае мне такую магчымасць.

**— Што вы атрымліваеце ад работы ў ФІКА ў маральным, матэрыяльным і прафесіянальным плане?**

— У прафесіянальным плане— магчымасць росту як эканаміста. Я атрымліваю маральную задаволенасць ад таго, што займаюся той справай, якая мне падабаецца. У матэрыяльным таксама няблага, але гледзечы з кім параўноўваць. Нафтавікі Нефцеюганска атрымліваюць па 150 тысяч у месяц, прынамсі, столькі ім налічваюць. Я столькі не атрымліваю. Але на жыццё хапае. Галоўная крыніца маіх затрат — гэта ўласная бібліятэка. Я збіраю кнігі для сябе, для мужа і для сына. У кожнага свае інтарэсы.

**— Якія найбольш складаныя праблемы паўстаюць перад вашай кампаніяй?**

— Галоўная праблема — кадры.

**— У вас дэфіцыт кадраў?**

— Мы хацелі б, каб людзі, якія з намі працуюць, былі нашымі аднадумцамі. Каб яны хацелі вучыцца і мелі схільнасць да вучобы. Запаволенасць у дзеянні дзяржаўных структур— гэта таксама вялікая праблема.

**— У вас застаецца час для асабістага жыцця?**

— Звычайна — выхадныя. Сына нашага глядзіць няня. А так кожны дзень да апошняй хвіліны заняты працай.

**— У вас ёсць кумір? Хто гэта?**

— Па-першае, гэта — мой муж. У яго неверагодная працаздольнасць. Да таго ж ён — чалавек-наватар. А з жанчын— Маргарэт Тэтчар. Яна таксама хімік. Не тое, каб мне хацелася быць «жалезнай лэдзі», але сучасная жанчына павінна быць наступальнай і асобай. Дасягнуць гэтага ў сучасным грамадстве даволі цяжка. Маргарэт Тэтчар, застаючыся жанчынай, працавала і была асобай ў мужчынскім акружэнні.

**— Апошнім часам большасцю людзьмі валодае страх перад заўтрашнім днём. Як вы ўяўляеце сабе сваю будучыню?**

— Мая будучыня не малюецца мне светлай і яснай, але я абсалютна ўпэўнена ў тым, што галоўнае для любога чалавека — працаваць і хацець працаваць. Я не магу дакладна сцвярджаць, што такая будучыня будзе светлай і сонечнай. Буду працаваць чым далей, тым больш.

**— З гэтага можна заключыць, што вы аптымістка?**

— Я — прагматык.

**— Калі вы, жанчына, кіруеце такой сучаснай фірмай, то якую ролю вы адводзіце ў жыцці мужчыне?**

— Мужчынскую. Чым бы жанчына ні кіравала, якой бы яна ні здавалася мужнай, у жыцці кожнай павінен быць мужчына, які стаў бы апорай яе жыцця.

**— Што для вас сям'я?**

— Мой дом—мая крэпасць. Мая сям'я не тое што стандартная, тыповая. Мы ўвесь час працуем разам з мужам. Яна набывае рысы сялянскай сям'і канца XIX стагоддзя, калі муж і жонка былі непарыўныя. Яны займаліся адной справай. Тут атрымліваецца такі сімбіёз сямейнага жыцця і працы. І сын у мяне зусім дакладна ведае, што калі мы ідзём на працу,— плакаць нельга. Таму што мы ідзём зарабляць грошы. Ён у мяне самастойны. Любіць гуляць з патэльнямі.

**— Наталля Алегаўна, што вы пажадаеце чытачам «Звязды»?**

— Жанчынам — каб яны былі прыгожымі, каханымі і дзеткі ў іх былі здаровымі. Зараз такі цяжкі час, і так лёгка страціць аптымізм і жаданне жыць. Але ўсё ж не губляйце аптымізму і працуйце. Бо адзінае, што нас можа выратаваць, гэта праца і мы самі.

**Гутарыла**
**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

